© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# НАВІНКІ

30 кастрычніка - 10 лістапада 2000 №13(35) Кошт свабодны

*Ня дай кропельцы ўпасьці!* на стар.2

**Рональд МакДональд захоплены ў закладнікі.** Стар.3



**ПОДЗЬВІГ ПАЎЛІКА АДМАРОЗАВА (TRUE STORY)**

Комікс на стар.8

**Што рабіла апазыцыя падчас выбараў?** Стар.5

БАЙКОТ 2000




## ВОІН NATO, РАТУЙ!




*Або колькі словаў пра рэкляму і контаррэкляму* на стар. 6

## Алхімія выбараў

Неаднаразова, прысутнічаючы на ўчастках у якасьці старшыні перадвыбарчай камісіі, я зьвяртаў увагу на вапіюшчы факт. Пры ўскрыцьці ўрны сярод каліграфічна запоўненых бюлетэняў міжнародныя назіральнікі амаль заўсёды знаходзілі адзін-два пашпарты, ваенныя білеты або пэнсійныя пасьведчаньні. Мае падначаленыя тлумачылі ім, што гэтак вядуць сябе найменш псыхічна ўстойлівыя выбаршчыкі і што дакумэнты кожны раз вяртаюць па месцы жыхарства даўнаў. Гэта толькі пацьвярджае гіпотэзу аб выбарах як аб жаданьні пазбавіцца нейкай важнай часткі самога сябе.

Прычына візыту на выбарчы ўчастак – задавальненьне пэўнай унутранай паталёгіі. Дэлегуючы частку сваіх правоў (права голасу, як мінімум) кандыдату, не ад набываньня чагосьці выбаршчык атрымлівае задавальненьне, але ад страты, ад, калі хочаце, дабраахвотнай кастрацыі. Сапраўды, галасуючы індывід, падобна скапцу, адмаўляецца ўдзельнічаць у рэпрадукцыйнай сацыяльнай дзейнасьці і здымае зь сябе адказнасьць за працяг грамадзкага жыцьця. Рэлігійныя скапцы ўпэўненыя, што жывуць у апошнія часы, гэткім жа чынам выбаршчыкі ня здольныя ўявіць сабе будучыню безь бінарнага падзелу на дэпутатаў і кастратаў. Пэрсанальныя ініцыятывы скапцоў-валанцёраў III-га тысячагодзьдзя, такім чынам, абсарбіруюцца калектыўнай вампірычнай вагінай, якую ўвасабляе «народны выбраньнік» – валадар над супольнай будучыняй электарату.

На стар.4

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 30.10.2000г., а 01.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №821

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





# Зьбераганьне

**Сусьветны Банк дапаможа Беларусі бабкамі ў палітыцы энэргазьбераганьня. Што ён запатрабуе ўзамен?**

У якую валасатую дупу кожны год зацягвае мірыяды кіляват энэргіі, гэтак патрэбныя народнай гаспадарцы рэспублікі? Напярэдадні ўрачыстай інаўгурацыі ацяпляльнага сэзону адгадка чайнворду была нарэшце знойдзена. Па падліках спэцыялістаў Міністэрства энэргетыкі сумесна з пацамі-вацамі Сусьветнага Банку, да энэрганосьбітаў нахабна прысмакталіся школы і лякарні.

Нарэшце зладзействам сацыяльных вампіраў будзе пакладзены канец. Для барацьбы зь імі філянтропы з СБ выдзелілі беларускаму ўраду крэдыт, які будзе выкарыстаны на скарачэньне энэргетычных апэтытаў вышэй прыведзеных паразытычных установаў. Спэцыяльны транш дапаможа адцягнуць іх ад разэткі, батарэі і зьмясіцеля, а ў пэрспэктыве навучыць ласых да халявы бюджэтнікаў самастойна забясьпечваць сябе неабходнымі рэсурсамі.

Паводле інфармацыі афіцыйных асобаў, якія пажадалі захаваць інкогніта, сумесная беларуска-глябальная праграма энэргазьбераганьня «Белэнэрджайзэр» будзе складацца зь некалькіх этапаў:

1.Аптымізацыя рацыянальнай эксплюатацыі службовых плошчаў шляхам павелічэньня колькасьці галоў школьнікаў, пацыентаў і іншых аўтаномных біярэактараў на м² памяшканьня (клясы, палаты і г.д.).

2.Выкарыстаньне альтэрнатыўных крыніцаў цяпла: індывідуальных уцяпляльных валокнаў (курткі, рукавіцы, коўдры, муфтачкі і г.д.); высокапратэінавага харчаваньня (гарох, фасоля, боб) для дадатковай выпрацоўкі вантробнага газу $CO_8H_3$ (у будучыні з адкрыцьцём новай крэдытнай лініі СБ плянуецца ўвядзеньне ў эксплюатацыю сеткі лякальных газаправодаў). Асаблівая ўвага надаецца недапушчэньню ўжываньня аспірыну пры шпіталізацыі высокатэмпэратурных хворых і своечасоваму пакараньню вінаватых у халатнасьці.

3.Наладжваньне вытворчасьці пэрсанальных пэдальных акумулятараў электраэнэргіі зь іх цэнтралізаваным усталяваньнем на вучэбныя (лячэбныя) месцы. Гэткім чынам, кожны навучэнец (пацыент) зможа аўтаномна прадукаваць неабходныя ампэры для сваіх патрэбаў.

4. З мэтай экспэрымэнту ў пачатковых клясах урокі па фізвыхаваньні рэкамэндуецца замяніць на штодзённыя фізычныя гульні і практыкаваньні энэргазьберагальнай накіраванасьці (кручэньне коларэактара, узаемныя расьціраньні сьвежых абмаражэньняў і г.д.).

Паважаныя бацькі! Перад тым як раніцай адправіць вашага філіпка на заняткі, не забудзьцеся прасачыць, каб ён даеў свае гарохавыя мюслі. Ад вашай адказнасьці залежыць ня толькі цяпло і ўтульнасьць у клясе, але і энэргетычная бясьпека нашай Радзімы. Узгадаем наказ продкаў: рынкавы сацыялізм – гэта палатная ўлада плюс самаэлектрыфікацыя ўсёй краіны ●

**Джэймс Вульфэнсан**

## «НавамОва»

### Наркамаўка па-расейску?

Апошнім часам палітыка русіфікацыі пачала даваць радыкальныя збоі, і прычым у самой Расеі. Першымі трывогу забілі расейскія мовазнаўцы: паводле апошняга перапісу насельніцтва ў Расеі цэлых 0,15% насельніцтва – непісьменная. А калі паглядзець праўдзе ў галасавыя зьвязкі, то большасьць расейцаў не валодае сваім «языком» гэтак, каб без памылак напісаць банальнае пушкінскае «Я вас любил, чиво жи болей, што я магу ищо сказать...». Ну проста не зразумела звычайнаму абарыгену тульскай вобласьці, навошта пасьля літары «ж», у слове «лыжы», пісаць «и», калі выразна чуваць «ы»! Каб аблегчыць расейскім школьнікам вывучэньне «великого и могучего», філёлягі Расейскай Акадэміі Навук прапанавалі правесьці рэформу па спрашчэньні правапісу, якая будзе, відаць, нашмат рэвалюцыйней за бальшавіцкую. У сьлед за "яцем", "іжыцай" ды іншай лабудой, у сьметню паляціць літара «ё» (якую, лянуецца пісаць 99,9 % расейцаў) і літара «и», якую вырашана замяніць на «і» (яе ў два разы хутчэй пісаць). Ува ўсіх астатніх новаўвядзеньнях будзе брацца залатое правіла беларускай мовы «як гаворыцца, так і пішацца»: гаворыш «парашут» ці «брашура» – дык і няма што выкачурывацца з «парашютом», а чуеш «сэкс» ці «бізнэс», дык не забывайся на «э абаротнае». Такім чынам па-расейску будуць пісацца «інтэграцыя», «Лукашэнка», «Саюз», «брацтва» і г.д. Як будзе звацца новая граматыка, у адрозьненьне ад расейскай «наркамаўкі», невядома. Хіба што «пуцінаўка» або «думаўка».

## Ня дай кропельцы ўпасьці!




Сэнсацыя: у 2000 годзе бясспрэчным лідэрам у спажываньні алькаголю на душу насельніцтва стала Беларусь, пакінуўшы далёка ў хвасьце папярэдняга чэмпіёна – Расею, якая заняла ганаровае другое месца. Пакрыўджаныя маскалі патрабуюць перагледзець вынікі гадавога спаборніцтва, заявіўшы, што «браты па саюзу» зашмат расплёскваюць вогненную ваду, што й прывяло да росту спажываньня алькаголю ў абсалютных літрах●

## КАНТАКТ ЁСЬЦЬ!

**У Бачаровым Ручаі (што пад Сочы) адбыўся «неафіцыйны кантакт» двух брацкіх прэзыдэнтаў**

Валодзя, я прэдлагаю пашырыць наш апарат

НТВ.RU

Ну, павелічэньне апарату я лічу немэтазгодным

НТВ.RU

Ну тады скрайне неабходна падоўжыць зьмеявік

НТВ.RU

НТВ.RU Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасфэры

## ЗВАРОТ

### Рэдакцыі газэты «Навінкі» да чытачоў і падпісчыкаў газэты «Навінкі»

Дарагія суайчыньнікі!

З глыбокім сумам і болем мы атрымліваем ад вас сыгналы наконт недаатрыманьня чарговых нумароў нашай газэты.

Горка! Горка асэнсоўваць увесь цяжар адказнасьці, які ўзьняла на свае плечы Рэдакцыя газэты. Сутыкнуўшыся з шэрагам праблемаў аб'ектыўнага характару, праца Рэдакцыі ў верасьні-кастрычніку была фактычна паралізаваная агульным энэргетычным крызысам і эканамічнай стагнацыяй ува ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Аднак Рэдакцыя не скарылася й ня склала рук перад жыцьцёвымі праблемамі. Вялікімі намаганьнямі і асабістым гераізмам працоўнага калектыву Рэдакцыі нам удалося выйсьці зь віра крызысу й цьвёрда стаць на шлях стабілізацыі і паскарэньня, выконваючы ўсе нарматывы Першай «Навінкаўскай» Пяцігодкі.

Асаблівае слова падзякі і глыбокі паклон выкажам падпісчыкам, якія недаатрымалі за верасень-кастрычнік 3 (тры!) нумары газэты «Навінкі». Рэдакцыя газэты бярэ на сябе абавязацельства пагасіць гэтую запазычанасьць да канца бягучага кварталу як у колькасным выражэньні, гэтак і паводле якасных паказчыкаў.

Не пакідайце ж газэты нашай «Навінкі», каб ня ўмёрлі!

Разам – у новае тысячагодзьдзе!

**Рэдакцыя газэты «НАВІНКІ»**



Як заўсёды, на вуліцах Бялграду невялікія заторы. Прычына таму – паліўны крызыс, выкліканы бамбардзіроўкамі NATO.



НТВ Усе дарогі ў Бялград блякаваныя прыхільнікамі апазыцыі, якія сьцякаюцца ў сталіцу з усіх канцоў краіны.

Аднак, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, краіна намагаецца ўстаць на ногі.



Каля парлямэнту паліцыя сустрэла дэманстрантаў сьлезацечным газам і дубінкамі.

Югаслаўскі народ падтрымлівае палітыку прэзыдэнта Мілошавіча, поўны рашучасьці змагацца з амэрыканскім імпэрыялізмам.



Абураныя людзі кінуліся на штурм бастыёну мілошавіцкай дыктатуры. Як заўсёды, найбольш радыкальныя сярод іх – студэнты.

Патрыятычныя пачуцьці перапаўняюць гэты горды славянскі народ.



Паўстанцы прарваліся ў сутарэньні парлямэнту. Рэжым паў.

Народ горача вітае байцоў Югаслаўскай Народнай Арміі, якія адпраўляюцца ў Косава для навядзеньня канстытуцыйнага парадку.



Рэальна ўзважыўшы свае сілы, паліцыя й спэцназ перайшлі на бок паўсталага народу.



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Бедны Рональд...

## *Менская лялька ўжо год правяла ў закладніках*

Ужо каля году працягваюцца пакуты славутага клоўна-лялькі Рональда МакДональда, які ў Менску быў захоплены ў закладнікі тэрарыстычнай групай «Радыкальны Рух Супраць McDonald's». У звароце тэрарыстаў гаворыцца, што выкраданьне Рональда – гэта акцыя салідарнасьці з рабочымі карпарацыі McDonald's, правы якіх штодзённа парушаюцца. Патрабаваньні выкрадальнікаў простыя да плешкі – дазволіць работнікам сеткі McDonald's ствараць прафсаюзы.
Пасьля тэракту расейскі часопіс *Огонёк* апублікаваў артыкул, у якім падрабязна апісваліся няцацачныя зьдзекі над менскай лялькай, які стаў ахвярай сэксуальнага гвалту. Аднак ягоныя гаспадары не сьпяшаюцца выконваць патрабаваньні тэрарыстаў. Менскае прадстаўніцтва McDonald's нават сьцьвярджае на старонках газэты *Рэспубліка*, што нібыта нічога такога ў Менску й не было. Між тым, факты, якімі валодае нашая рэдакцыя, не даюць глебы для сумневаў. Фотаздымкі, якія тэрарысты распаўсюдзілі праз Інтэрнэт, сьведчаць, што небараку-Рональду сапраўды несалодка. «Калі пажыральнікі біг-макаў і надалей будуць упарціцца, мы будзем адпільваць у Рональда па пальцу і дасылаць незгаворлівым гастранамічным імпэрыялістам!» – рашуча заяўляюць тэрарысты ●



## БрутАл

### Сьвяткаваньне Дня Маці

У час, калі ў Менску Менгарвыканкам урачыста прымаў дэлегацыю маці, якія зрабілі ўнёсак у разьвіцьцё насельніцтва спальных раёнаў гораду, у Брусэлі 35 тысячаў жанчын з усяго сьвету пратэставалі супраць гвалту, беднасьці і няроўнасьці полаў. Бэльгійскія няні патрабавалі лепшых умоваў працы, францускія лесбіянкі – палепшыць надзейнасьць і фарбавую гаму фалаімітатараў. Таксама сярод дэманстрантаў былі палестынскія і ізраільскія жанчыны з арганізацыі «Жанчыны ў чорным», якія, дэманстратыўна ўзяўшыся за рукі, прадэфілявалі ва ўкор Бараку і Арафату.

### Рэвалюцыя ў Афрыцы

16 кастрычніка ў Зымбабвэ пачаўся бунт. Сотні людзей ва ўсходняй частцы сталіцы Харарэ грамілі пустыя крамы, падпальвалі аўтобусы, біліся з паліцыяй, будавалі барыкады з камянёў і бакаў для сьмецьця. Дзеля лякалізацыі бунту ўзброеная паліцыя заблякавала бяднейшы прыгарад Мабвуку і мястэчка Тафара. Бунт выкліканы чарговым падвышэньнем кошту на хлеб, цукар, бэнзын, малако ї збожжа. Таксама павялічылася плата за праезд у аўтобусах. Усё гэта адбываецца на фоне мацнейшага эканамічнага крызысу – 70% інфляцыі і 50% беспрацоўя. Да гэтага часу ўладам на чале з прэзыдэнтам Рабэрта Мугабу ўдавалася перанакіраваць нянавісьць народу на белых фэрмэраў-латыфундыстаў, аднак зараз паўсталыя падняліся супраць саміх уладаў. Гэта папярэджаньне тым, хто зьбіраецца падняць кошты на гарэлку і сьпірт.

### Міхась апраўданы

Расейскі «бізнэсмэн» Сяржук Міхайлаў, вядомы як Міхась – лідэр «сонцаўскай» дабрачыннай групоўкі, разьвёў швайцарскія ўлады на 460 тыс. даляраў. Гэта дзяржаўная кампэнсацыя за два гады «неапраўданага знаходжаньня» ў турэмнай хаце Жэнэвы. Два гады на яго намагаліся навесіць падробку дакумэнтаў, незаконнае набываньне ўласнасьці ў Швайцарыі, стварэньне злачыннай групоўкі, але даказаць усё гэтае так і не змаглі. Зь перамогай, сумленны чалавек Міхась.

### Антыпаліцыянты

У Бразыліі 23 кастрычніка пачаліся масавыя беспарадкі паліцыянтаў. Зранку каля 2000 малодшых афіцэраў выйшлі на вуліцы мястэчка Рэсыфі, сталіцы штату Пэрнамбуку з патрабаваньнямі павелічэньня заробкаў. Праз гадзіну яны сустрэлі паліцыянтаў-штрэйкбрэхераў, якія знаходзіліся ў гэтыя часы на дзяжурстве і пачалі гвалтаваць калег. Тыя заклікалі на дапамогу армейскія часткі, якія ўзялі горад пад кантроль. 5 рэвалюцыйных паліцыянтаў паранена, каля 25 затрымана. Аднак зараз улады штату ўжо гатовыя пайсьці на саступкі справядлівым паліцыянтам.

### Вела-камікадзэ

26 кастрычніка быў узарваны ізраільскі блёк-пост у Сэктары Газа. Камікадзэ, які зьяўляўся сябрам групоўкі «Ісламскі джыхад», пад'ехаў на ровары і прывёў у дзеяньне выбуховы мэханізм. У выніку выбуху быў паранены адзін ізраільскі салдат, камікадзэ па традыцыі загінуў.
Гэты выпадак прэтэндуе ўвайсьці ў гісторыю тэрарызму адразу па некалькіх намінацыях:
1. Першы выпадак, калі камікадзэ выкарыстоўваў ровар.
2. Адзін зь нешматлікіх тэрактаў, у выніку якога гіне толькі адзін чалавек – камікадзэ.
3. У выніку выбуху застаўся цэлым ровар. Марка ровару ўдакладняецца.

# Рагатка супраць аўтамата

## Палестынскія адорвышы распачалі чарговую інтыфаду «за незалежнасьць»



«Гэта проста хуліганы!» – так пракамэнтаваў прэм'ер-міністар Ізраілю Эхуд Барак апошнія падзеі на тэрыторыі Палестынскай аўтаноміі. Палестынцы сапраўды вядуць сябе па-хуліганску: замест таго каб культурна і інтэлігентна страчыць па акупантах з «калашоў», яны кідаюцца ва ўзброеных вайскоўцаў камянямі й страляюць з рагатак ●

## ПерахОдны ўзрОст

### Двоешнікі за перамены

Нарэшце прыйшло сьвята й на вуліцу нерадзівых вучняў, другагоднікаў і прагульшчыкаў: утвораная арганізацыя, якая будзе цяпер лябіяваць іхныя правы. Натхнёныя вядомай цоеўскай «Перемен!!!», шэраг маладзёвых арганізацыяў згрупаваліся ў блёк «Моладзь за перамены».
Ініцыятарамі праекту выступілі вядомы «сачок» Паша Севярынец, двоешнік і недавучка Кірык Ігнацік і іншыя вядомыя разгільдзяі.
«Трэба даць рашучы адпор вучылкам, якія забараняюць паліць за вуглом школы, тэхнічкам, якія спазьняюцца са званком з уроку, фізрукам, што тэрарызуюць за адсутнасьць спартовай формы, і іншым антывучнёўскім элемэнтам!» – гаворыцца ў супольнай дэкларацыі «Моладзі за перамены». Галоўнай мэтай новага аб'яднаньня зьяўляецца павелічэньне працягласьці перапынкаў за кошт урокаў.
Настаўнікі ўжо пачынаюць біць трывогу, сутыкаючыся з фактамі парушэньня вучнёўскай дысцыпліны. Даходзіць да таго, што «экстрэмісты» зьяўляюцца ў школу бязь зьменнага абутку, а некаторыя адорвышы пачынаюць ігнараваць наведваньне прадлёнкі.
Каб супрацьдзейнічаць такім разбуральным тэндэнцыям, настаўнікі ўзялі курс на цеснае супрацоўніцтва з бацькоўскім камітэтам. Першай сумеснай акцыяй настаўнікаў і бацькоў будзе прадухіленьне г.зв. «Шэсьця пераменаў», якое мае адбыцца 12 лістапада.

# *Вінтоўка і рыдлёўка*

Чарговае крывавае злачынства камунізму было нядаўна выкрытае вядомым амэрыканскім гісторыкам Зянонам Пазьняком. Ён адкапаў новы факт генацыду беларускага народу маскоўска-бальшавіцкімі акупантамі.
У 40-50-я гады – піша Пазьняк у *Народнай Волі*. – На савецка-польскай дзяржаўнай мяжы існавала такая завядзёнка: маладому байцу давалі ў рукі вінтоўку і рыдлёўку з загадам забіць першага ж абарыгена і хуценька яго пахаваць. Адсюль, маўляў, і пайшла народная прымаўка: «Ня бойся чалавека зь вінтоўкай, але бойся з рыдлёўкай».
На жаль, вядомы гісторык і публіцыст не да канца распявёў нам усю страшэнную праўду пра тагачасны генацыд. Відаць, пашкадаваўшы нашую псыхіку, Зянон Станіслававіч утаіў такі важны факт, што на Палесьсі салдатам для зручнасьці замест рыдлёўкі давалі вілы (імі лягчэй капаць у дрыгве). Таму там існуе прымаўка: «Ня бойся рыдлёвак, а бойся вілаў – балота будзе табе магілай». На ўсходзе, дзе беларусы былі слабыя ад голаду, савецкаму жаўнеру з эканоміі давалі малаток, аб чым сьведчыць народная прыкмета, якая сустракаецца у тых мясьцінах: «Жаўнер з малатком – сьмерць за кутком».
Вось такія яны, маскалі!

**Янка Капала**




*Чырвонаармейскі плякат. Беларуская вайсковая акруга, 50-я гады*

Нават г.зв. «дэмакратычная апазыцыя» капітулюе перад геніяльнай і прадуманай палітыкай сацыялістычнай партыі Сербіі і югаслаўскага ўраду.



Новы законнаабраны прэзыдэнт Югаславіі Ваіслаў Каштуніца ўжо адчуў смак перамогі. Вядучыя краіны сьвету вітаюць новага кіраўніка краіны.

«З брацкім сербскім народам нас аб'еднияет многа обшчага» – трапна падкрэсьліў Аляксандар Рыгоравіч.



Кіраўнік Беларусі абяцаў ужо былому югаслаўскаму лідэру палітычны прытулак.

Слабадан Мілошавіч атрымаў запрашэньне наведаць нашую краіну.



Пераможаны Мілошавіч зьбіраецца пакінуць краіну. Готов je!

У нашай палаце
ВОЛЬНЫЯ МЕСЦЫ!
Расцэнкі рэклямнай плошчы:
на 1 паласе – 700 руб./см²
на астатніх паласах – 500 руб./см²
Зьвязвацца праз пэйджэр: 2070000 для абанэнта 6159
НАВІНКІ



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

X-FILES

# АЛХІМІЯ

*«Паважаныя апазыцыянэры! Калі вы вырашылі зьмяніць сваё палітычнае крэда – не зьмяняйце Закону аб выбарах!»*

*Лідзія Ярмошына*

## Траўматызм на дарогах




**У апошнія тыдні значна павялічылася ўдзельная вага транспартнага траўматызму падчас перадвыбарчай гонкі. Сярод мэханічных пашкоджаньняў траўма, якая прычыняецца ўдзельніку перадвыбарчай гонкі ад апазыцыі, складае самастойную групу. У адпаведнасьці з асаблівасьцямі пашкоджаньняў і мэханізмамі іх узьнікненьня, выдзяляюцца наступныя няшчасныя выпадкі:**

**а) Удзел у гонцы кандыдата ад апазыцыі, як правіла, прыводзіць да выпадзеньня апошняга з дыстанцыі з заўчасным палітычным скананьнем:**

**1.Пры рэзкім старце. Кандыдат не пасьпеў своечасова падаць дакумэнты на рэгістрацыю.**

**2.Пры рэзкім тармажэньні. Адсутнасьць яўкі выбаршчыкаў на ўчастак дзе балатуецца апазыцыянэр.**

**3.Пры крутых паваротах. Траўма наносіцца ў выпадку няўважлівасьці кандыдата да зьменаў перадвыбарчай кан'юнктуры.**

**б) Байкот выбараў пагражае незваротнымі парушэньнямі функцыі палітычнага росту і амаль заўсёды сканчаецца летальным зыходам з палітыкі:**

**1.Пры жаданьні затармазіць рух. Зьбіцьцё апазыцыйнага дзеяча, які перашкаджае правядзеньню выбараў (раскідваньні ўлётак у паштовыя скрынкі, маршы свабоды і г.д.).**

**2.Пры знаходжаньні на абочыне. Пашкоджаньне дэмакрата, які ігнаруе электаральны працэс.**

## Імідж – нішто!

### Іміджмэйкер – усё! Але пакуль што нашы кандыдаты вельмі цьмяна гэта ўяўляюць, і адпаведна выглядаюць...

Калі зьвярнуць увагу на выбары (ня нашыя, вядома, а цывілізаваныя), то адразу бачна, што перамагае ня той, у каго лепшая праграма (бо ў большай ступене праграмы ва ўсіх аднолькавыя),а той, хто не пашкадаваў грошай на іміджмэйкера. У 21 ст. выбары ператвараюцца ў звычайны кірмаш, а кандыдаты ў тавар накшталт новага мыючага сродку для ванны. Дэпутаты таксама патрабуюць канцэптуальнай рэклямнай кампаніі. Прыкладам можа паслужыць Пуцін. Лысаваты, потны гэбэшнік зь нейкай чыкацілаўскай манерай размаўляць, як у казцы ператвараецца ў сэкс-сымбаль, цьвёрдага дзюдаіста, пра якога мараць усе хатнія гаспадыні Расеі. Ну калі некалькі разоў з тэлевізару нанятыя іміджмэйкерам жанчыны гавораць табе, што менавіта Валодзя такі сэксуальны мужчына, а потым яшчэ пакажуць, як ён перамагае загадзя падкупленага майстра спорта, намякнуць, што ён сам лятае на самалёце, ну дзе тут утрымаесься, каб не прагаласаваць за яго. Так што, ня будзьце х...халтуршчыкамі, ня жміцеся на іміджмэйкераў, спадары кандыдаты ●



## СпАдчына

### «Зыр на корань!»

Усе сёньня завісаюць на архаічных феньках захапленьня паганствам і намагаюцца зарыцца ў глебу традыцыі па самыя «не хачу» або «не магу». Прэзыдэнт, напрыклад, – гэта сакральны жрэц аграрнага культу «Дажынкі»; апазыцыянэры аддаюць перавагу загробным культам, сьвяткуючы «Дзяды»; а на «Купальле» ўвесь астатні народ нажыраецца й пачынае скакаць праз вогнішча, рызыкуючы прынесьці сябе ў ахвяру богу Крыва-Крывайцісу. Аднак за ўсімі гэтымі паганскімі патугамі чамусьці працягвае замоўчвацца самы старажытны культ – культ пакланеньня фаласу.

Між тым, у далёкія аўтэнтычныя часы ён зьяўляўся ня проста мачаспускальным органам, а сымбалем сілы, улады і выбранасьці. І гэта не прыкол! Калі ўважліва разгледзець графіці ў старажытных беларускіх пячорах, можна заўважыць наступную дэталь: у наскальных фрэсках мужчыны большага сацыяльнага рангу маюць адпаведна большы чэлес. Апошнія ж навуковыя досьледы ў галіне фаласазнаўства дазваляюць сьцьвярджаць, што і выбары ў мінулым праходзілі менавіта паводле гэтага прызнаку: у каго маркоўка болей – той і правадыр.

І сапраўды, калі вяртацца да каранёў, то й зырыць трэба ў корань (іншым словамі, на хрэн). Варта было б адрадзіць старадаўнія прашчураўскія традыцыі: замест падчэпленай недзе сыфілітычнай дэмакратыі аднавіць звычаёвую фалакратыю. У адпаведнасьці са сьвятымі запаветамі продкаў, выбары трэба праводзіць паводле памераў эрэгіяванага чэлесу. Пры гэтым максымальна забясьпечваецца чэснасьць кандыдатаў: як ні круці дзетародны орган, а магчымасьць павялічыць рэйтынг дзякуючы «чорнаму піару» або фальсыфікацыям зводзяцца да мінімуму. Аматары імплянтацыяў павінны падвяргацца суровым пакараньням за чэлесашкодніцтва. Уладальнік найбольшай балэбы становіцца прэзыдэнтам, у каго паменей – дэпутатамі, а ўвогуле пакрыўджаныя прыродай ідуць у мясцовае самакіраваньне. У гэтым кантэксьце таксама патрэбна перагледзець і працэдуру імпічмэнту, якая будзе наўпрост зьвязаная з патэнцыялам улады. Нашыя прашчуры ведалі, што фалас – гэта ня проста кіла, а знак харызмы і магічнай сілы. Гэтыя здольнасьці правіцель павінен быў дэманстраваць, пэрманэнтна задавальняючы сваіх падданых. Калі ён пачынаў даваць у гэтай справе збой, яму проста рабілі кірдык: лічылася, што харызма павінна знаходзіца толькі ў дзеяздольным чэлесе.

Піце віягру, спадары кандыдаты!

**Жыгімонт Няфрэйд**



Электаральная прапаганда працуе па прынцыпу «мы – гэта вы», што значыць для выбаршчыка: «Я – болей ня Я». Некалькі гадоў таму мне давялося назіраць экспэрымэнт суполкі мазырскіх паганцаў, якія лічацца профі ў чорнай магіі. Пры дапамозе складаных канфігурацыяў народных абрадаў яны спрабавалі зжыць са сьвету Прэзыдэнта і дамовіліся з праайцамі, каб тыя забралі яго да сябе (падрабязьней гл. сайт www.czavo.org/barbie). Спроба скончылася поўным фіяскам. Анімісты вызначылі, што Прэзыдэнт, узмоцнены электа-

## ІСТОРЫЯ ПРА ТОЕ, ЯК МУЖЫК ГАЛАСАВАЦЬ ХАДЗІЎ






© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

X-FILES

# ВЫБАРАЎ



Законатворчы працэс у парлямэнце, з пункту гледжаньня артадаксальнай эўрапейскай алхіміі, ёсьць ні што іншае, як працягнутая вайна гербоў (эмблемы і колеры партыяў), а гэтая герылья ў сваю чаргу мэтафарычна адрасуе нас да рэцэптаў тых ці іншых хімічных рэакцыяў. Адной з галоўных мэтаў алхіміка зьяўляецца атрыманьне ўнівэрсальнага трансфарматара рознага гаўна ў золата, каб атрымаць неабмежаваную ўладу. Гэта супадае з мэтай эканоміка-палітычнай эліты – праз электаральную сыстэму атрымаць унівэрсальны сродак кантролю над насельніцтвам. Аднак давайце вернемся да алхімічнай аналёгіі: як красамоўна сьведчаць лякмусавая паперка і эбанітавая палачка, ніводзін мэтал (альбо іншае рэчыва) ня можа быць унівэрсальным замяняльнікам другога: літаральна, «у сьвеце кампанэнтаў няма эквівалентаў». Што раздражняе алхіміка і парлямэнцкую сыстэму. Любая крытыка парлямэнтарызму для парлямэнтарыя – гэта «безадказнасьць, суб'ектывізм, саліпсізм, анархізм...».

Адзіным жа сродкам вяртаньня ў сацыяльнае жыцьцё прынцыпу рэальнасьці ёсьць бунт. Выбаршчык, незадаволены сваёй рольлю кастрата, можа даслаць узурпатару чорную метку праз адказ удзельнічаць у парочным коле выбараў. Самая дэкляратыўная форма такога папярэджаньня, аналягічная страйку або блякадзе шашы – гэта байкот альбо сабатаж плебісцыту (супраць усіх, за усіх і г.д.). Пры гэтым калектыўны байкот павінен быць сымэтрычна падобны да мадэлі выбараў, уключаючы ўсе цырыманіяльныя элементы апошніх: перадбайкотныя ўчасткі, камісіі, наглядальнікаў і, абавязкова, буфет з музычкай. Наступным крокам зьяўляецца сьвядомы пераход ад пратэсту да доўгатэрміновага і пэрспэктыўнага супраціву. Далей...

ральным даверам, у процьму разоў магутнейшы за звычайнага грамадзяніна. Сьцьвярджалася, што аналягічныя экспэрымэнты на простых людзішках давалі амаль стопрацэнтовую верагоднасьць летальнага зыходу. Мэтадам дэдукцыі ведзьмакамі была зробленая выснова, што для ліквідацыі гаранта Канстытуцыі трэба перш за ўсё нэйтралізаваць («сурочыць») увесь ягоны перадвыбарчы штаб (Фядуту, Лябедзьку і да т.п.), а потым і ўвесь электарат, але апошняе пакуль што патрабуе занадта вялікіх спірытычных інвэстыцыяў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

**Алесь Кляткоўскі**

## Віртуальны прэзыдэнт?

Хутка мы апынемся сам-насам перад архіскладанай праблемай: якім будзе новы Прэзыдэнт? Кандыдата ад улады ведае кожны школьнік: ніякіх альтэрнатываў шклоўскаму волату няма. Пошукі ж у вадкіх шэрагах апазыцыі «агульнадэмакратычнай кандыдатуры» ўвогуле нічога экстраардынарнага не даюць: той вусамі ня выйшаў, гэты фэйс-кантрол не праходзіць, а ў іншага і ўвогуле плаўнікі не з патрэбнага парлямэнту растуць. Што тады рабіць? Ня век жа нам міжсобку сварыцца.

І тут на дапамогу прыходзіць перадавая ноў-хаў. Лепшае выйсьце – віртуальная ўлада зь інтэрактыўным прэзыдэнтам. Рэальна апошні можа існаваць альбо не, але заўсёды будзе перад вачыма ягоная шматаблічная электронная вэрсія ў Інтэрнэце. Яна знойдзе сьцежку да кожнага сэрца. На прахадных заводаў, у чырвоных кутках калгасаў і саўгасаў, у ДК, пад'ездах дамоў, крамах усталёўваюцца пункты калектыўнага карыстаньня Сусьветным Павуціньнем, і кожны нармальны грамадзянін зможа пад настрой на свой густ стварыць твар, імідж і біяграфію будучага кіраўніка краіны. Думаеце, фантастыка?




У некаторых дзяржавах такія перадавыя тэхналёгіі ўжо зараз прымаюць «на ўра».

Прыклад: наша невялічкая суседка Латвія. Біл Гейтс сумесна з прэзыдэнтам гэтай краіны Вікі замуціў грандыёзны кібэр-экспэрымэнт па стварэньні «электроннай улады». Хутка латышы будуць рэгістраваць і парываць шлюбы, плаціць падаткі, а галоўнае – зьдзяйсьняць дэмакратычны выбар выключна праз Інтэрнэт. Ужо сёньня відэа-камэры зь перадачай карцінкі ў «он-лайн» усталяваныя ў кабінэце міністра фінансаў Гундарса Бэрзіньша, і кожны выбаршчык зможа назіраць, што і як робіць міністар на працоўным месцы, як часта і па якой гігіенічнай патрэбе ён выходзіць у міністэрскі клязэтас. На чарзе іншыя высокапастаўленыя функцыянэры.

Падобны кантроль далёка не навінка для Беларусі: схаваныя камэры БТ зранку і да позьняй ночы транслююць жыцьцё нашага Прэзыдэнта. Адзінае застаецца энігмай: што робіць старшыня НАК у перапынках паміж «АТН-Навінамі»? У будучыні варта будзе толькі клікнуць у патрэбную вінду – і загадак не застанецца ●

**Эпл Макінтош**

*ЦікАва вЕдаць*

## ШТО РАБІЛІ ЛІДЭРЫ АПАЗЫЦЫІ 15 КАСТРЫЧНІКА?

**Вядома ж, яны не хадзілі натоўпамі па менскіх вуліцах. Праясьніла сытуацыю на гэты конт прэсавая група БНФ, якая даслала нам наступную цікавую інфармацыю. Аказалася, што 15 кастрычніка кампанія «Байкот - 2000» была ў сваім піку. Лідэры апазыцыйных партыяў і арганізацыяў рабілі ў гэты дзень тое, да чаго заклікалі ўсіх беларусаў: альбо адпачывалі, альбо працавалі. Усе былі далёка ад тых месцаў, дзе рэжым імітаваў «выбары ў парлямэнт».**




**ВІНЦУК ВЯЧОРКА,** старшыня БНФ, падчас выбараў у палатку быў у офісе Партыі БНФ: тэлефанаваў, цікавіўся тым, як праходзіць галасаваньне, а таксама сачыў за актуальнымі падзеямі праз Інтэрнэт.




**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА,** старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, распавёў, што 15 кастрычніка для яго быў днём адпачынку. За апошнія 2 месяцы гэта першы дзень, калі сп. Лябедзька дазволіў сабе ляжаць на канапе і чытаць газэты, якія сабраліся за гэты час.




**ЗЬМІЦЕР БАНДАРЭНКА,** каардынатар Хартыі'97 у дзень выбараў у палатку паехаў разам зь сябрамі ў лес, дзе меў магчымасьць на сьвежым паветры добра адпачыць і атрымаць асалоду ад беларускай прыроды.




**АЛЯКСЕЙ КАРОЛЬ,** намесьнік старшыні БСДП (НГ), прытрымліваўся актыўнага байкоту выбараў. 15 кастрычніка першую палову дня ён абходзіў выбарчыя ўчасткі і назіраў, як праходзіць галасаваньне. Увечары сп. Кароль таксама займаўся палітычнай працай.




**ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ,** лідэр Маладога Фронту, 15 кастрычніка правёў ва ўправе БНФ, дзе працаваў з дакумэнтамі, а таксама цікавіўся інфармацыяй з галасаваньня, якая найхутчэй трапляла ва ўправу.



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Ня дай сабе прасохнуць!

## або, колькі словаў пра рэкляму і контаррэкляму

Калі яшчэ вы:
–купляючы бутэльку газіроўкі, не бармочаце сабе пад нос нешта накшталт «ня дай сабе засохнуць»;
–ня лічыце, што запоўненая пад горлышка бутэлька «колы» сымбалізуе сабой максымум атрыманага ад жыцьця;
–не балееце за адзін з фляконаў з вадкасьцю для мыцьця посуду, што спаборнічаюць за грамату «Таварыства чыстых талерак»;
–не халадзееце пры думцы пра тое, ШТО можа хавацца пад абадком унітазу...:
значыць наступная інфармацыя можа быць вам карыснай.

Гаворка пойдзе пра рэкляму, якая дастала ўжо кожнага прадстаўніка нашага грамадзтва: ад аматаркі сэрыялу да футбольнага фана. Справа зусім не ў раздражняльнай назойлівасьці рэклямных ролікаў, якія ўкліньваюцца ў любімыя фільмы або перадачы. І нават не ў небясьпецы дарма патраціць свае грошы, павёўшыся на чарговую крэатыўную ідэю. Шкода тэлерэклямы – у пастаянным узьдзеяньні на псыхіку і вобраз мысьленьня. Не, гаворка ідзе не пра г.зв. «замбіяваньне» або «эфэкт 25-га кадра». На самой справе ўсё нашмат прасьцей і таму небясьпечней.



Прадукцыя кампаніі *«Прапар і Дэмбель»*

Па-першае, TV-рэкляма ***небазьбежная***. У тым сэнсе, што тэлевізар пры яе зьяўленьні ніхто звычайна не выключае, а блуканьне па каналах у палове выпадкаў прыводзіць да трапленьня на новы рэклямны блёк зь цёцяй Асяй.

Па-другое, яна ***шматразовая***. Пасьля 25-га прагляду нават самага тупога ролiку мозг безпамылкова запамінае яго з усімі падрабязнасьцямі – ад трэску разарванай кашулі да інтанацыі, зь якой была вымаўленая фраза «...вось яна, рэальная эканомія!». Забыць можна нават самы геніяльны фільм, які бачыў адзін раз, але сто разоў паўтораны ролік пра парушаны кіслотна-шчолачны баланс – ніколі.

Па-трэцяе, яна ***простая***. У сэнсе зусім простая, часта да агіды, бо робіцца яна ў разьліку на самую шырокую аўдыторыю, «...і для каляровай тканіны пасуе!».

Нарэшце, TV-рэкляма навязвае свой вобраз мысьленьня. У гэтым і ёсьць галоўная небясьпека, а ўсе вышэй пералічаныя фактары робяць яе рэальнай.

АСТМА
СИГАРЕТЫ

Мэта большасьці рэклямных ролікаў – прадаць рэклямаваны тавар максымальнай колькасьці пакупнікоў. (Інтарэсы апошніх у разьлік ужо ня йдуць.) На практыцы для гэтага існуе гара прыёмаў, самы бяскрыўдны зь якіх – перабольшваньне вартасьцяў аб'екта рэклямы праз яркі відэашэраг і клясычнае «ўаў!» на заднім пляне. Іншыя спосабы нашмат горш і нахабней: гэта і надуманыя праблемы, і рэклямныя слоганы або фразы, якія ў патрэбны момант усплываюць у памяці і даюць імпульс да пакупкі, і стварэньне ўстойлівых асацыяцыяў пэўнага тавару з высокім станам ягонага карыстальніка ў грамадзтве або ягонай пасьпяховай кар'ерай і г.д.

Разам з тым гэта азначае **ПРАДКАЗАЛЬНАСЬЦЬ.** Тэлерэкляма паступова робіць з нас тых, хто ёй патрэбны. Аднолькавая інфармацыя, якая трапляе ў галаву кожнага, прымушае ўсіх думаць, адчуваць і паступаць паводле адзінай схемы. Яна намагаецца ўзьдзейнічаць на вобраз мысьленьня чалавека, вызначаць ягоныя звычкі і перакананьні.

Як жа абараніць сябе ад узьдзеяньня гэтага тэлепаскудзтва? Для пачатку трэба хаця б гэтага захацець. Калі ж вы сапраўды хочаце, каб чарговы рэклямны ролік не дурыў вам галавы ідыёцкімі слоганамі, неіснуючымі праблемамі, безгустоўнымі карцінкамі і навязанымі ўяўленьнямі пра жыцьцё, мы можам прапанаваць вам некалькі простых парадаў.

**ПАРАДА 1:** Пяшчотна абдыміце свайго «блакітнавокага сябра» і... кіньце яго праз вакно. Напрыклад, славуты БГ менавіта так і зрабіў, кінуўшы свой Panasonic з трэцяга паверху ўласнага асабняку. Гэта самы радыкальны і дзейсны мэтад, але ня шмат хто на яго рэальна здатны. Я, напрыклад, надта ўжо люблю глядзець «Калыханку» і «Рэзананс» (бадай, адзіныя перадачы без рэклямы). Акрамя таго заўсёды застаецца рызыка, што ў хвіліны слабасьці духу тэлевізар будзе куплены зноў, альбо яго хто-небудзь падорыць, а падарунак выкідаць неяк няёмка.

**ПАРАДА 2:** Пастаўце свой «яшчык» дагары нагамі і глядзіце яго такім чынам. Гэты спосаб выкарыстоўваў адзін з пэрсанажаў раману В.Пялевіна *Generation «П»*, сыходзячы з тых меркаваньняў, што перавернутая карцінка застанецца ва ўспрыняцьці толькі карцінкай, і «паглыбленьня» ў відэашэраг не адбудзецца. Такі шлях аднак мае цэлы шэраг пабочных эфэктаў: па-першае, некаторыя тэлевізары дагары нагамі гэтак проста не паставіш – надта крышка выпуклая (тут я бачу злую волю вытворцаў); па-другое, могуць пачацца парушэньні вэстыбулярнага апарату; па-трэцяе, з часам да гэтага можна прызвычаіцца гэтак сама, як і да чытаньня перавернутага тэксту, – і эфэкт абароны зьнікне.

Існуюць і іншыя спосабы абароны ад тэлебачаньня, але ўсе яны ў большай ці меншай ступені адносяцца да эзатэрыкі, а таму альбо небясьпечныя для здароўя, альбо нязручныя ў побыце, альбо могуць напалохаць родных і блізкіх. Таму прапануем вам выкарыстоўваць мэтад, абсалютна незаўважны з боку і які не патрабуе аніякіх перастановак ці грашовых выдаткаў.

**ПАРАДА 3:** Сьцябаць рэклямныя ролікі, зьдзеквацца зь іх, а таксама прыкалываць тых, хто вядзецца на абяцаньні атрымаць «самае лепшае», адчуць сябе круцей за іншых або проста не даюць сабе засохнуць. А між справай вельмі раю залезьці на сайт «супраціву татальнаму відэаўзьдзеяньню»: www.kontrreklama.go.ru.

Вызвалі свой розум ●

**Лявон Галубкоў**

## Бяз грЫму

### На дне.

Разборкі калектыву тэатру-лябараторыі «Вольная сцэна» затрахалі старонкі беларускай прэсы. «Новы кіраўнік не здавальняе нас з творчага боку», – сьцьвярджаюць акторы тэатру. Міністэрства мастацтва ў сваю чаргу заяўляе, што больш не пацерпіць разгільдзяйства ў творчым працэсе.

Як стала зразумела, мэтады новага творчага кіраўніка тэатру сапраўды несумяшчальныя з творчым працэсам, неад'емнымі часткамі якога зьяўляюцца бухалаўка, бабы і кумар. «Падчас працы над «Рычардам ІІІ» мы не маглі нават касяка забіць дзеля натхненьня», – скардзіцца нам вядомы актор тэатру, які пажадаў застацца невядомым. – «У грымёрках не было нават адэкалёну. Зразумела, што ствараць свабоднае мастацтва ў такіх нелябараторных умовах цалкам немагчыма».

Нават адчайныя спробы забамбіць адвар з мухамораў былі жорстка прысечаныя рэжысэрам, нягледзячы на тое, што традыцыйны сродак рэляксу сярэднявечных рыцараў быў неабходны для ўваходу ў ролю. Калі абсцынэнтныя памкненьні рэжысэра пахерылі трывіяльны спэктакль пра Рычарда, што казаць пра такія прадзьвінутыя рэчы, як «Узьлёт Артура Ўі, які можна было спыніць» або «Стомлены д'ябал». Рэдакцыя газэты *Навінкі* шчыра падтрымлівае памкненьні актораў «Вольнай сцэны» і патрабуе стварэньня для свабоднай творчасьці спрыяльнай атмасфэры, пазбаўленай кансэрватыўных прагібіцыянісцкіх закідонаў.

# Карыбскія прайдзісьветы



***Гурт:*** *LOS CHICANOS*
***Альбом:*** *«Концерт в Карибском бассейне».*

Касіць бабкі трэба на Захадзе. Гэта разумее любы музыкант, які не здолеў накасіць бабак на Ўсходзе. Таму Польшча ўжо год блюе ад НРМу, нэгрыцянскія блюзэры Нью-Ёрку вешаюцца на струнах Казлоўскага і ўся Эўропа марыць адабраць шэнген у фольк-маньякаў КРЫВІ.

Што ж застаецца менш вядомым, але больш нахрапістым лабухам? Ясна, краіны «трэцяга сьвету» – залатое дно для спрытных махінатараў. Гэта рэгіён наркабабак, кактусаў і непісьменных малпаў у самбрэрах. Што можа быць прывабней для музыканта, чым адкасіць тур па «епянях», дзе жывых ПЕСНЯРОЎ ня бачылі з 1970-га году? Бабла пры гэтым рэальна падняць столькі, што потым можна год пантавацца на «Трубе», наварочваючы выключна тэкілу напалам з «Хольстэнам». Тыповы абразчык такой сумнеўнай прадукцыі – творчасьць менскага рокабілі-гурта LOS CHICANOS (што ў перакладзе значыць проста «Чокнуты лось»). Перайначыўшы шыльду на заморскі лад, хлопцы лабаюць народныя мэксыканскія песьні, шчыра разбаўляючы іх беларускай мацернай лексыкай. Агульная бескультуршчына схаваная пад жудаснай трасянкай і жахлівым гітарным гукам (пісаўся матэрыял на лямпавай апаратуры зь люмінісцэнтнымі лямпачкамі напальваньня). Мэлёдыі Элвіса Прэслі, няўмела злабаныя адным пальцам на кантрабасе, не выклікаюць нічога акрамя агіды і жорсткага пахмельнага сындрому. Што казаць аб тэкстах, зь якіх разборліва чутна толькі «карамба», «карыда» і «чорт пабяры»!.. Карацей, перад тым як замахвацца на Карыбскі басэйн, варта спачатку адыграць пару сэйшнаў у басэйне «Працоўных рэзэрваў» ●

**Алег Клізман**

## Увага! Конкурс!

**Газэта «Навінкі» распачынае конкурс НА ЛЕПШЫ АРТЫКУЛ сярод сваіх чытачоў.** Умовы конкурсу:
– прыняць удзел у конкурсе можа любая асоба, незалежна ад полу, узросту, нацыянальнасьці ці сэксуальнай арыентацыі;
– матэрыялы прымаюцца **да 23:59 31 сьнежня 2000 году** ў друкаваным (пажадана) ці рукапісным выглядзе на паштовую скрыню рэдакцыі: **п/с 33, 220134 Менск**, ці па факсе **(017)211-09-78**, ці на e-mail: **navinki@user.unibel.by** з пазначкай «KONKURS»;
– тэма артыкулу: культурная падзея (ці зьява) з жыцьця Беларусі ці замежжа;
– аб'ём матэрыялу не павінен перавышаць 2000 знакаў.
Лепшыя артыкулы будуць друкавацца на старонках газэты, а аўтары атрымаюць прапанову далейшага супрацоўніцтва з рэдакцыяй газэты.
Рэдакцыя праставўляе:
**1-ае** месца – **5л піва + грашовая ўзнагарода**
**2-ое** месца – **5л піва** (ці ў эквіваленце)
**3-яе** месца – **0,5л гарэлкі** (без эквіваленту)
**І яшчэ. Ня трэба нас імітаваць!**



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Ранішняя пошта кандыдата ў палату

**П**ерадвыбарчая гонка падыходзіць да канцу, заманаліся выбаршчыкі, стаміліся кандыдаты, ахрыплі агітатары. У сытуацыі ўсеагульнага атупеньня і тармажэньня можна ўжо падвесьці першыя вынікі праведзенай выбарчай кампаніі. Былі і ўлёткі, і календарыкі ды іншая макулятура. Аднак для мяне, старога мэлямана, засталося абсалютна незразумелым, чаму не атрымаў ходу такі афігіцельны фактар выбарчай актыўнасьці як музычная падтрымка кандыдатаў, здольная ператварыць нават нуднейшую перадвыбарчую руціну ва ўсенароднае сьвята?

Здаецца і грошы ёсьць, а трацяць іх на ўсялякую пашляціну. Толькі на лічаных участках тыя-сія кандыдаты замуцілі дыскачы. Але і гэта ня тое. Разам з шэрымі ўлёткамі са сваімі фэйсамі кожны кандыдат мусіў напругчыся ды й прадставіць сваю, так бы мовіць, музычную візытоўку, калі хочаце, праграмны саўндтрэк.

Напрыклад, Натальлі Машэравай файна пасаваў бы «Рэквіем» Моцарта. Гэты саўндтрэк лепш за ўсё імпануе яе жалобным сіроцкім прамовам. Можа быць у замагільным гучаньні сусьветнага твору народ нарэшце пачуе запавет яе вялікага бацькі, сэнс якога Натальля Пятроўна магчыма аднойчы агучыць.

Міхаілу Чыгіру як аўтарытэтнаму казнакраду і маючаму «ходку» варта было б вывучыць пару-тройку блатных песень гурта ЛЕСОПОВАЛ і лабаць іх пад гітару на сустрэчах з выбаршчыкамі.

А вось Міколу Статкевічу асабліва напружвацца ня трэба: ён як былы вайсковец вядома аддасьць перавагу маршам. Напрыклад, «Разьвітаньне славянкі» або «На сопках Манджурыі» элегантна ўпісаліся б у ягоную ружовую перадвыбарчую плятформу.

Аматарцы сухафруктаў Вользе Абрамавай даўно варта развучыць песьню і пляску «Эх, яблочко» ці на худы канец «Яблоки на снегу». Але «Кони в яблоках» выкарыстоўваць ня раім – напрошваюцца навязьлівыя асацыяцыі з Навасядам ці, барані Бог, з байкоцкай АГП.

Былой правай руцэ прэзыдэнта і незалежнаму журналісту Аляксандру Фядуце мы б прапанавалі зрабіць акцэнт на сваёй нялёгкай долі. Тут падыйдуць папулярныя куплеты накшталт «Два кусочика колбаски...» альбо «Родился я трущобах городских, я есть хотел, я голодал...». Такі рэпэртуар можна паспрабаваць зьмікшыраваць па-моднаму з рэпам ці хіп-хопам. Уявіце толькі сабе вечарынку ў «Рэактары» з удзелам Фядуты і ўсёй ягонай агідкаманды! Гэта гарантаваныя першыя радкі ў выбарчых топах.

Бярыце, таварышы, прыклад з прышчавага хлапчука Севы Янчэўскага. Ягоныя «цімураўцы» ўжо каторы тыдзень тэрарызуюць слуцкіх абывацеляў песьнямі кшталту «Взвейтесь кострами, синие ночи», «Янчевский, Янчевский, взлети выше Солнца». (А калі ня хочаш ісьці галасаваць – атрымаеш зорачку на дзьверы.)

Больш жыцьця, паважаныя кандыдаты! Электарат патрабуе сьвята! Сьпявай і танчы альбо прайграеш! ●

**Сымон Музыка**

## Калі б Марк Чэпмэн прамахнуўся...

Абяцаю! Я перайду з ЛСД на віягру!

Джон, я ўжо забыла, што такое мужык!

З-за наркатычнай страсьці Дж. Ленан стаў імпатэнтам і разьвёўся зь Ёка Она.

Хэй-хэй! Естэрдэй! Імэджын, еах-еах...

Ленан зарабляў на хлебчык выпускам тэхна-рэміксаў на свае старыя песьні.

Ведаеце, пра што я мару шторанiцы?

Даваць самае лепшае!

Ён здымаецца за грошы ў папсовых рэклямах кавы і шампуняў для хіпі

Фры эс зэ бёрд!..

Ня вытрымаўшы такога застою, Джон Ленан скончыў жыцьцё самагубствам

# Панкі ў стрэсе

## А кампанія «Супрафон» панесла мільённыя страты

**Н**овую правакацыю правярнулі акулы нацыянальнага шоў-бізнэсу з «Беларускай Музычнай Альтэрнатывы». Трапіўшы на бабкі з раскруткай беларускага року, яны вырашылі падняцца на клясыцы. Пры гэтым фінансавыя расклады Супрановіча былі простымі як паравоз.

Па-першае, опэру ўлады ня шчэмяць. Па-другое, усе чувакі-кампазытары ды сьпевакі даўно згулялі ў яшчык, а значыцца за аўтарскія башляць ня трэба. Па-трэцяе, на дыскі мусілі раскруціць нацыянал-пэнсіянэраў. Да сёньняшняга дня іхны няўдзел у фінансаваньні БМА-group тлумачыўся недаверлівым стаўленьнем да рок-н-ролу, які выступаў у адным шэрагу зь лямпачкай Ільліча і джазам. Дыск салодкіх опэрных сьпеваў Міхася Забэйды-Суміцкага мусіў прывабіць недаверлівых старпёраў. Але ж як утрымаць у шэрагу спажыўцоў армію апазыцыйных тынэйджэраў, якія акрамя панку ды мэталу цікавяцца ў лепшым выпадку PRODIGY і тут кампанія «Супрафон» пайшла на адкрытую падсьцёбку, расклеіўшы па горадзе афішы з наступным тэкстам «Легенда беларускага валачобнага панку Міхась Хер-Забей!Да?», «Новы альбом джангл-рэміксаў», «Не прапусьціце!».

*Юным прыхільніцам у кампаніі Міхася Забэйды-Суміцкага не было сумна.*

На прэзэнтацыю супэрадрэналінавай праграмы «Ластаўкі ў стрэсе» сабралася вялікая тусьня панкаў, рэйвэраў і нацыянальна сьвядомай гапаты. За гадзіну да пачатку імпрэзы ўсе дыскі былі разьмецены. Паміж прадстаўнікамі розных субкультурных груповак пачаліся разборкі за лішнія білецікі. Па прыўзьнятым настроі натоўпу стала зразумела, што напрыканцы імпрэзы арганізатараў пачнуць біць. Можа нават нагамі...

Першыя пятнаццаць хвілінаў акцыі прайшлі мірна. Публіка не безь зьдзіўленьня назірала за перасоўваньнямі арганізатараў па сцэне, але прыціхла, калі прыўзьнялася заслона й пагасла сьвятло... Пачатак дакумэнтальнага фільму выклікаў пэўнае абурэньне і ціхі ропат. Калі стала зразумела, што сёлета «панк-легендзе» споўнілася сто год (і да таго ж яна даўно памерла), публіка паўскоквала зь месцаў. Але было позна – Супрановіч пасьпеў высьлізнуць праз чорны ход і растварыцца ў начы...

Пакуль аб'яднаныя гнеўным парывам гледачы шукалі махінатара па горадзе, засеўшы ў сваім логаве, Супрафон падлічваў выручаныя ад імпрэзы грошы. Разьюшаным прыхільнікам засталася толькі копія аматарскага чорна-белага порнафільму.

Пытаньне, чаму ластаўкі трапілі ў стрэсавы стан, і які ўвогуле ластаўкі меліся на ўвазе ствральнікам псэўданародных песень – засталося загадкай ●

**Арцём Троіцкі**


УВАГА!

Падпісная лятарэя НАВІНКІ

«ПРЫЙДУЦЬ! ЦІ НЯ ПРЫЙДУЦЬ?..»



Умовы лятарэі (падпіскі):

Наш падпісны індэкс 63439

| | | |
|---|---|---|
| на 1 месяц (2 нумары) | – | 176 руб. |
| на 3 месяцы (6 нумароў) | – | 528 руб. |

Падпіску можна аформіць у любым аддзяленьні сувязі да 10 числа кожнага месяца.


# Дах не паехаў

**Я** ніколі ня быў згодны з тымі рэнэгатамі, якія сьцьвярджалі, быццам бы культура нацыянальнай бардаўскай песьні, расьціснутая касмапалітычным рэйвам ды-джэяў, назаўсёды зышла ў нябыт. Не хацелася верыць, што нам ужо ніколі не пайсьці ў лясок з бутэлечкай «Крыжачку» ў заплечніку і гітаркай у руках, што ўжо ніколі не сядзець ля вогнішча і не саліць печаную бульбу п'янымі патрыятычнымі сьлязьмі пасьля праслухоўваньня нацыянал-лірычных бардаўскіх тэм. І ня трэба мне нагадваць тых недадзеланых Дыланаў, кшталту кастратагалосага франкаканадца Даньчыка і блеючага з-за кардону Сокалава-Воюша. Менавіта гэтыя мастадонты сваім калдырным кансэрватызмам і адштурхнулі моладзь ад бардаўскай песьні!

Але ня гледзячы на ўсе цяжкасьці і недарэчнасьці ўсё ж адбылося, ядроны-зяноны! Паслухаўшы альбом гурта ПАДДАШША «Znow u B.S.S.R.» я зразумеў – адбылося! Нарэшце, вось яны – сапраўдныя выразьнікі спадзяваньняў, надзеяў і расчараваньняў генэрацыі маладых адраджэнцаў-дзевяностасьнікаў. ПАДДАШША – гэта простыя хлопцы-патрыёты з вуліцы, якія заместа камянёў узялі ў рукі гітары - і ў іх атрымалася. Ды яшчэ як атрымалася!

На касэце 9 песень. Тут ёсьць усё: «У голага караля» – беларускае сярэднявечнае гітарнае барока ў стылі «Полацкіх сшыткаў» (сёньняшнія дэгенэратыўныя чытачы наўрад ці ведаюць, што гэта такое), «Выбары – мана!» – палітычнае дыска у настальгічным рэтрасаўковым стылі, «У кіпцюрох Б.Г.У.» – куплеты ваганта-ліцьвіна, «Неапалітычная песенька» – дэс-масакр з падвізгваючырыклівым вакалам (шкада толькі, што словаў не разабраць), «Ой, стары Талаш» - фольк-сонг зь лёгкім налётам песьняроўскай пост-бітлоўскай квазірокавасьці, «Сьвяты, Неўміручы, Няўлоўны, Нябачны» – шчымяшчае душу прызнаньне ў каханьні да выбітнага палітычнага дзеяча Беларушчыны богападобнага З.С.Пазьняка.

Грамадзкая пазыцыя гурта ПАДДАШША акрэсьлена даволі канкрэтна: сваёй творчасьцю хлопцы кажуць – пацалуй у сраку сабаку, паганая дыктатура! Але галоўнае дасягненьне музыкаў я бачу ў тым, што яны сумясьцілі традыцыйны беларускі мэлас, бардаўскую традыцыю ў лепшых яе праявах, прыправілі ўсё гэта народным гумарам ды выплеснулі ў масы тую сапраўды патрыятычную суспэнзію.

Хочацца спадзявацца, што калі-небудзь пад бардаўскія акорды мы паддамо разам з ПАДДАШШАМ не якую-небудзь чужынскую гарэлку «Московская», а свой беларускі каньяк «Курапаты» ●

**Нябаба,**
музычны крытык

ZNOW U B.S.S.R.
ПАДДАШША



*Гурт:* ПАДДАШША
*Альбом:* «Znow u B.S.S.R.»
*9 песень, 41:02 хвіліны*



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# КОМІКС






© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018